*А КАЛІ СЛОВА ПЯРОЙДЗЕ Ў ДЗЕЛА – ТАДЫ ЗА ПРАЎДУ СТАНАВІСЯ СМЕЛА!*
**Кастусь Каліноўскі, 1864 г.**

№ 4, лістапад' 2007 год



# ПАРТЫЗАНСКАЯ

**БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ**

**СПЕЦРЭПАРТАЖ:** ТОЕ, ШТО НЕ ПАКАЗВАЕ БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ




**Татьяна Тишкевич, пострадавшая от рук бойцов спецназа 16 августа 2007 года, продолжает добиваться справедливости в белорусской правовой системе. О том, что произошло 16 августа, как защитить себя и что ждёт Беларусь в ближайшее время, читайте в эксклюзивном интервью на 4-5 страницах «Партызанскай».**





МЫ ВЕДАЕМ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА!

**ДЫЯЛОГ З МУЗЫКАМІ**

Беларускія рок-музыкі "Палац", NRM, "Нэйра Дзюбель" і "Крама" рыхтуюць дабрачынны канцэрт перад навагоднімі святамі. Па іх словах, гэта будзе імпрэза кштালту акцыі "Цукеркі дзецям", паводле якой усе сабраныя грошы пойдуць на падарункі дзецям-сіротам і інвалідам. Акцыя стала магчымай пасля сустрэчы ў адміністрацыі прэзідэнта 21 лістапада, у працэсе якой не так даўно "забароненым" рок -музыкам далі зялёнае святло на іх музычную дзейнасць у замен на іх нейтралізацыю з палітычнага жыцця краіны.

**• ПАДЗЕІ • НАВІНЫ •**

► **Паводле афіцыйнай інфармацыі міністэрства унутранных спраў, з 2 студзеня 2008 года ў Беларусі будзе адменена абавязковая пячатка дазволу на выезд за межы краіны.** Пры гэтым, кантраляваць, каму можна а каму нельга пакідаць РБ, будуць непасрэдна памежныя службы. Забарона выезду за межы краіны будзе тычыцца асобаў, якія асуджаны, адбываюць пакаранне, праходзяць пад следствам; катэгорыя вайскоўцаў; таксама, грамадзяне, якія не аплацілі штрафныя санкцыі ў вялікім памеры, маюць запазычанасці перад дзяржавай, банкамі, установамі і прадрыемствамі. Таксама ў бліжэйшы час адмяняецца сістэма прапіскі грамадзян РБ, якая будзе замененая на рэгістрацыю і адмысловую сістэму ўліку.

► **10 снежня пачынае працу БЕЛСАТ – новы праэкт пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза па альтэрнатыўным тэлевізійным вяшчанні на Беларусь.** Тэлецэнтр, знаходзячыся на польскай тэрыторыі, будзе перадаваць інфармацыю на нашую тэрыторыю праз спадарожнікавую сістэму вяшчання. Такім чынам, 10 снежня, у сусветны дзень правоў чалавека ўладальнікі спадарожнікавых антэн атрымаюць магчымасць успрымаць першую беларускую тэлевізійную альтэрнатыўную крыніцу інфармацыі.

► **Праваабаронцы патрабуюць ад уладаў адмяніць прымусовае размеркаванне студэнтаў.**

У гэтым годзе, згодна з афіцыйнай інфармацыяй, было ўзбуджана 65 крымінальных спраў супраць студэнтаў, якія не трапілі на месцы размеркавання. Такім студэнтам прад'яўляюцца пазовы да 5 тысяч долараў ЗША ў якасці спагнання сродкаў, якія былі адведзеныя дзяржавай на іх вучобу. Да сённяшняга дня грамадзяне Беларусі пазбаўленыя права на атрыманне бясплатнай вышэйшай і спецыяльнай адукацыі, што ў сваю чаргу гарантуе асноўны закон – Кантытуцыя РБ. Такое права кіраўніцтва нашай дзяржавы замяніла на выкарыстанне ў сваіх інтарэсах патэнцыялу маладых спецыялістаў на месцах, што парушае, як лічаць эксперты, прынцыпы правоў чалавека. Выпускнікам ПТВ і каледжаў адводзіцца адмысловая адпрацоўка на некалькі гадоў на заводах і фабрыках, якія часам значацца, як эканамічна нерэнтабельныя. Той жа лёс і з выпускнікамі ВНУ, якіх чакае непрадказальныя высылкі ў розныя рэгіёны і мястэчкі краіны. Добра, калі гэтыя мясціны – не чарнобыльская зона або закінутая вёска якой-небудзь правінцыі. Праваабаронцы "Беларускага Хельсінскага Камітэта" (БХК) зрабілі выснову, што дадзеная акалічнасць супярэчыць Канстытуцыі і прававой практыцы цывілізаваных дзяржаў свету.

Праваабаронцы БХК назвалі такія захады беларускай улады элементамі прымусовай працы і накіравалі запыт непасрэдна ў Канстытуцыйны суд з патрабаваннем растлумачыць дадзеную сітуацыю. Таксама яны патрабуюць або адмяніць артыкул Канстытуцыі аб бясплатнай адукацыі, або проста адмяніць прымусовае размеркаванне. Па сённяшні дзень, паводле слоў супрацоўнікаў БХК, адказу так і не паступіла. Мабыць, прадстаўнікі судовай улады яшчэ не параіліся з першай асобай РБ па гэтым пытанні, а самі не ў стане асмеліцца да самавыказвання.

# Лукашэнка пазбавіў свой народ ільготаў і сацыяльных гарантый

**17 снежня ўступае ў сілу прыняты "Палатай прадстаўнікоў" і падпісаны прэзідэнтам РБ Закон "Аб ільготах і сацыяльных гарантыях", які, уласна кажучы, адмяняе сацыяльныя гарантыі ледзь не для паловы грамадзян Беларусі.**







Вядома, "Палата прадстаўнікоў" не з'яўляецца самастойным ворганам кіравання, а толькі выконвае загады чыноўніка №1. Пра гэта Лукашэнка напрост заявіў на апошняй прэсавай канферэнцыі з расійскімі журналістамі. Прэзідэнт афіцыйна заявіў, што гэта ён загадаў адмяніць усе ільготы. Наконт абяцанай ідэалагічнай праграмы "сацыяльна арыентаванай дзяржавы" высновы застаецца рабіць нам самім.

Новы закон закранае інтарэсы значнай колькасці грамадзян. Скасоўваецца ільготны праезд для дзяцей, студэнтаў, ліквідатараў наступстваў аварыі на ЧАЭС і пенсіянераў. Да таго ж, ліквідатарам адмоўлена ў зніжцы на лекі, матэрыяльнай дапамозе, бясплатным аздараўленні ў санаторыі а таксама ў бясплатным вырабе і рамонце зубных пратэзаў. Пенсіянеры, акрамя ільготнага праезда, губляюць 50%-ную зніжку на лекі і права бясплатнага пратэзіравання зубоў. А ўдовы інвалідаў і ветэранаў губляюць зніжкі на камунальныя паслугі. Таксама адмяняецца бясплатны праезд у гарадскім і прыгарадным транспарце для супрацоўнікаў МУС, льготныя лекі і пуцёўкі ў беларускія санаторыі.

Такім чынам, афіцыйна падлічана, што ад гэтага закона пацерпяць 2,4 мільёна пенсіянераў, 1,5 мільёна дзяцей, больш за 660 тысяч студэнтаў і навучэнцаў, увесь склад супрацоўнікаў МУС, 115 тысяч "чарнобыльцаў", больш за 120 тысяч ветэранаў вайны і былых вязняў канцлагераў, больш за 500 тысяч інвалідаў. Такім чынам, адмена сацыяльных гарантыяў кранае інтарэсы больш як пяці мільёнаў чалавек! Новым законам дзяржава ў чарговы раз паказала сваё сапраўднае стаўленне да людзей. У простага народа няма сваіх лабістаў сярод уладнай вертыкалі. Само чынавенства выконваць свае непасрэдныя абавязкі па адстойванні правоў і патрэбаў грамадзян не збіраецца.

Аднак, як стала вядома, у хуткім часе будзе вынесены на разгляд у "Палату прадстаўнікоў" альтэрнатыўны праэкт па дапаўненні ўжо падпісанага закону. Калі гэты закон будзе зменены, ён стане больш "мяккім", дзе прадугледжваецца пакінуць ільготы для катэгорыі малазабяспечаных, дзяцей-сірот і дзецям-інвалідам да 18 гадоў.

Інфармацыя аб адмене ільгот была вядома яшчэ гэтай вясною, але масавай пратэстнай рэакцыі з боку беларускага народу так і не з'явілася. Такім чынам, беларускае грамадства, што прызвычаілася да памяркоўнасці, страху, абыякавасці і падканрольнасці дыктатуры, прыняла адмену ільготаў. Арганізаваныя пікеты і Сацыяльны марш аб'яднанымі дэмакратычнымі сіламі абмежаваліся толькі не вельмі шматлюднымі акцыямі пратэсту. Большасць жа беларусаў засталіся ў баку. Можа быць, як мяркуюць эксперты, калі людзі зразумеюць, чаго іх пазбавілі, падлічаць грошы ў кішэнях і ўбачаць новыя кошты ў крамах і кірмашах, - яны узгадаюць урэшце вопыт італьянскіх і французскіх забастовак?

Відавочная адна выснова: у дадзены момант людзям, каб адстаяць свае правы на сацыяльныя гарантыі , неабходна шчыльнейшым чынам супрацоўнічаць з дэмсіламі і незалежнымі прафсаюзамі. У гэтым палягае шанец на тое, каб улада прыслухоўвалася да народу і вярнула ільготы.

**Арцём Дарый**

# Чаму ў беларускіх спецслужбаў ніяк не атрымліваецца ліквідаваць "Малады Фронт"?

## СІТУАЦЫЮ КАМЕНТУЕ УЛАДЗІМЕР СЯРГЕЕЎ

Да чаго часам даводзіць ідэйнасць, моладзевая смеласць і мужнасць нашага маладога грамадства?!. Тым больш калі такія маладзёны аб'яднаныя на аснове маральных і духовых прынцыпаў, - як, паказвае гістарычны час, такіх не зламіць і не спыніць у іх справе. Вядомая арганізацыя "Малады Фронт" па сённяшні дзень застаецца незарэгістраванай згодна з дзеючым заканадаўствам РБ, пры гэтым дадзеная акалічнасць не перашкаджае ёй быць адной з самых масавых дэмакратычных арганізацый у краіне. Беларускія спецслужбы, відавочна, па вышэйшэм загадзе на працягу ўсёй дзейнасці "Маладога Фронту" прадпрымалі разнастайныя крокі па нейтралізацыі актывістаў і поўнаму знішчэнню арганізацыі. Асабліва такія аперацыя супраць "непадкантрольнага фронту" узмацніліся апошнія два гады, калі ў якасці зброі ў ход пайшлі крымінальныя справы, пераследы, суды, спробы адлічаць пэўных асоб з вучобы і інш. Але нягледзячы на такія гвалтоўныя захады, арганізацыя працягвае сваю працу. З адмысловым пытаннем пракаментаваць дадзеную сітуацыю мы звярнуліся да аднаго з цэнтральных актывістаў і каардынатараў мінскай гарадской арганізацыі – **Уладзіміра Сяргеева**:

"Насамрэч, пытаньне, як кажуць, з падвоеным дном: з аднаго боку, гаворку можна весці пра тое, як рэжым Лукашэнкі спрабуе растаптаць нашу арганізацыю; аднак, калі глянуць больш маштабна, фармулёўку трэба змяніць, кшталту: **"Чаму Лукашэнка ня можа знішчыць беларускую моладзь?"**

Сапраўды, за ўсю дзесяцігадовую гісторыю свайго існавання "Малады Фронт" нацярпеўся ад улады ўсяго, але, мабыць, у апошнія два гады ціск на наш рух узмацніўся да беспрэцэдэнтных маштабаў. У спэцслужбаў стаіць галоўная задача – канчаткова ліквідаваць моладзевы супраціў рэжыму. Але, паўтаруся, дзеля выканання пастаўленай задачы патрэбна будзе проста знішчыць усю беларускую моладзь. Канешне, знішчыць не ў літаральным сэнсе, а, скажам так, знішчыць яе ініцыятыву, прагу да дзейнасці, знішчыць беларускасць і патрыятызм. Ужо некалькі гадоў усю беларускую моладзь "апрацоўваюць" з дапамогай дзяржаўнай ідэялогіі ды БРСМу. Але вынікі гэткіх намаганняў рэжыму плачэўныя, - дастаткова прыгадаць, як маладзёны выйшлі бараніць Беларусь і пратэставаць супраць незаконных выбараў вясною 2006 году. Тады мы былі за пару крокаў да перамогі, і менавіта маладафронтаўцы паказалі сябе найбольш актыўнымі і рашучымі. Зараз можна ўпэўнена сказаць, што моладзь перамагла Лукашэнку ў пляне духоўнасці, але той пайшоў ва-банк і чарговы раз паказаў свой твар.



Толькі, атрымаўшы перамогу сілком, рэжым зразумеў, што дух свабоды ў моладзевым асяродку яму ўжо не спыніць. Адсюль новая тактыка – знішчэньне, ізаляцыя авангарду пратэстуючых. Тых, хто вядзе за сабою масы, тых, за чыімі плячыма ня страшна астатнім. Насамрэч, менавіта "Малады Фронт" і гуртуе ў сваіх шэрагах такіх людзей – будучую беларускую эліту. Адсюль і пераслед, адсюль крымінальныя справы, адсюль бессэнсоўныя арышты актывістаў.

Бессэнсоўныя, бо ніводны маладафронтавец не зламіўся, наадварот, людзі яшчэ больш "закамянелі" у сваіх перакананнях. А розгалас ад рэпрэсіяў у грамадзтве пайшоў вельмі шырокі, ды і за мяжою зараз ведаюць, што ў апошняй дыктатуры Еўропы ёсць моладзь, якая не баіцца даць адпор тырану. Папулярнасць "Маладога Фронту" пашыраецца, адсюль пашыраецца і склад арганізацыі. Сёння да нас ідуць усё новыя маладзёны, натхнёныя нашаю стойкасцю. Такім чынам, Лукашэнка праз рукі КДБ, міліцыі і судовую сістэму сам стварае рэкламу сваім жа ворагам.

Што тычыцца лідэраў нашай арганізацыі Дзмітрыя Дашкевіча і Артура Фінкевіча, якія зараз сядзяць за кратамі, то я ўпэўнены, хлопцы вытрымаюць усе выпрабаванні і выйдуць на волю сапраўднымі нацыянальнымі героямі. Менавіта яны заўтра будуць мець магчымасць павесці Беларусь да цывілізацыі і дабрабыту.

Такім чынам, адказваючы на гэтае пытанне, можна сказаць, што ідэі нашага руху вітаюць сярод моладзі як вірус, становячы вірус свабоды і адраджэння. Ніхто не здольны ў нашай краіне гэты вірус знішчыць, а значыць, "Малады Фронт" не знікне ніколі." ▌

! У наступным нумары будзе змешчана святочнае віншаванне ад палітвязня і лідэра "Маладога Фронту" Дзмітрыя Дашкевіча з нагодай Раства і Новага 2008 года. Зварот да грамадства будзе арганізаваны адмыслова паводле літоў з калоніі г. Шклова !



**Уладзімер Сяргееў**
Нарадзіўся ў Мінску 6 красавіка 1986 года. Скончыў ліцэй, пасля сталічны машынабудаўнічы каледж. Працуе на Мінскім трактарным заводзе токарам (сябра Свабоднага прафсаюза металістаў), завочна навучаецца у Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце па спецыяльнасці "паліталогія". У вольны час ад працы, вучобы і дзейнасці ў шэрагах "Маладога Фронту" любіць лавіць рыбу, асабліва падчас лютых зімовых маразоў.

►СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ◄

Активистка гражданской кампании «Jeans - за Свободу!» **Татьяна Тишкевич** продолжает спор с правоохранительными органами страны по факту нападения и избиения её бойцами спецназа в августе этого года. Напомним, что тогда в результате рукоприкладства Татьяна попала в больницу с серьезными травмами и до сих пор стремится установить и наказать причастных к этому «правоохранителей». Для освещения этих событий мы и пригласили в нашу редакцию непосредственно виновницу «нестабильности» в работе правоохранительных органов Республики Беларусь – Тишкевич Татьяну. Итак...



# АКТИВИСТКА «JEANS - ЗА СВОБОДУ!» ПРОТИВ МИЛИЦЕЙСКОГО БЕСПРЕДЕЛА



Татьяна Тишкевич в 9 городской больнице

**- Татьяна, как сегодня твоё здоровье?**

- У меня всё хорошо. Последствия того события прошли, чувствую себя нормально. Занимаюсь спортом, наверное, это мне помогло в нужный момент.

**- Расскажи подробнее, что и как произошло с тобой, как попала в больницу?**

- Я участвовала в акции солидарности 16 августа, - это была очередная акция по защите костёла Святого Язэпа на Немиге. В этот день милиция не подпускала никого к костёлу, разгоняли все группы людей, которых было больше трёх человек. Я вместе с другими участниками акции решила отойти в сторону кинотеатра "Москва". Вдруг к нам подбежало несколько человек и схватили лидера нашей кампании «Jeans - за Свободу!» Никиту Сасима. Он стал звать на помощь нас и прохожих. Какие-то бабушки заволновались и стали кричать «Бандиты!», «Людей бьют!». Всё происходило очень быстро и неожиданно. Я попыталась помочь ему, но меня отбросили в сторону. Один из нападавших стал меня бить кулаками и ногами, в результате я упала на траву. У меня закружилась голова, мне стало очень плохо. А Никиту Сасима в это время уже «уволокли» в подъехавшую машину. Мне же вызвали скорую помощь, которая доставила меня в 9 городскую больницу, где сделали снимки. Врачи установили очевидное сотрясение мозга и зафиксировали многочисленные ушибы. Так я и оказалась в больнице...

**- И что было дальше?**

- Часов в шесть утра меня разбудила медсестра и представила гостя – сотрудника милиции с чёрной папкой. Он стал расспрашивать, что да как вчера произошло. Я ему всё рассказала, назвала также имена трёх человек – свидетелей, которых я запомнила, и потребовала разобраться, установить виновных. Этот гость сразу же засуетился, стал отговаривать, но все-таки заявление принял.

**- Как поддержали тебя твои знакомые, друзья, сторонники вашего движения?**

- Друзья и незнакомые мне люди приходили ко мне каждый день, многие связывались по телефону, приносили различные вещи. Звонили некоторые журналисты из независимых средств массовой информации, правозащитники.

**- И чем закончилось твоё пребывание в девятой больнице?**

- У больницы дежурили уже знакомые с различных акций бойцы спецназа, так называемые гэбэшники. Поэтому неудивительно, что через пару дней моего пребывания в больнице врач со словами «Ну ты сама всё понимаешь» выписал меня домой. И это несмотря на моё состояние: голова продолжала болеть, я еле передвигалась. Меня решили направить долечиться через день в республиканскую клиническую больницу, что под Минском. Там я пролежала ещё две недели. Всё это время меня продолжали поддерживать знакомые и незнакомые мне люди, приезжал **Александр Милинкевич** (*лидер движения «За Свободу!», экс-кандидат в президенты в 2006 году*).

**- Какая же была реакция наших правоохранительных органов, куда ты обращалась с заявлениями?**

- Меня вызывали на допросы в РУВД Центрального района Минска. На первый такой допрос я пришла с пятнадцатью моими свидетелями, которые подтвердили, что произошло 16 августа на том месте. Мне дали несколько фотографий разных спецназовцев, я должна была указать, кто меня бил. На фотографиях все они были молодые, наверное, ещё до их работы в милиции, поэтому определить в точности то лицо было сложно. Потом были беседы с участковым, другими следователями и дознавателями. Домой по почте ко мне пришло нежданное письмо, где был ответ от начальника ПМСН (*Полк милиции специального назначения*) **Ю.Подобеда**, где говорилось, что изложенные мной факты таковыми не являются, всё написанное мной преувеличено. Также, как я узнала, он посодействовал в том, что были сделаны выговоры моему участковому и заместителю начальника РУВД, которые принимали у меня заявления. Далее я обратилась в Прокуратуру с требованием разъяснить, какую компетенцию имеет начальник ПМСН в установлении того, кто прав, а кто нет. Также я потребовала установить лиц, причастных к тем событиям 16 августа, и в отношении их возбудить уголовное дело. Прокуратура по сегодняшний день рассматривает моё обращение, надеюсь, что скоро будет какое-то решение. Каким бы оно ни было, я буду обращаться во всевозможные инстанции, и добиваться справедливости до последнего.

**- А вообще тебя часто задерживали, как говорят пропагандисты Белорусского телевидения, за твоё участие в «антигосударственной» деятельности?**

- Я присоседилась к демократическому движению только в начале 2007 года. Задержаний уже, конечно было много, я же на месте не сижу. Протоколов, наверное, штук пять уже составлено. Две ночи пришлось этой весной до суда провести в спецприёмнике-распределителе по улице Окрестина. А задерживали в основном, за распространение газет, листовок, символики, наклеек, - за такие стандартные вещи белорусских оппозиционеров. Однажды, мне вынесли штраф в 20 минималок за то, что у меня при досмотре на улице нашли наклейки с призывом принять участие в Европейском марше. Я просто прогуливалась по центру города, и меня остановили сотрудники милиции проверить, что у меня в сумке, на что права они не имели. Они оказались «слишком умными», решив отвести меня в РУВД, где составили протокол за распространение незарегистрированной литературы. Через два дня состоялся суд, где мне и вынесли штраф. Я обратилась с ходатайством по пересмотру этого дела, и суд признал, что нарушения закона с моей стороны не было и, таким образом, оправдал. Просто всегда нужно добиваться справедливости, особенно если на твоей стороне правда.



**- Какие твои личные прогнозы про будущее Беларуси, что будет влиять на ситуацию внутри страны?**

- Думаю, что европейская кампания, которую начали демократические силы, будет продолжена, ведь по всем социологическим опросам большинство населения поддерживает идею вступления нашей страны в Евросоюз, разделяет европейские ценности. Мы требуем от властей выполнить 12 рекомендаций ЕС, в первую очередь, провести свободные выборы и прекратить преследование демократических активистов. Это откроет нам дорогу в Европу и поможет выбраться из экономического кризиса. Без соблюдений этих требований ничего хорошего нашу страну не ждёт.

**- А как твои родители отнеслись к твоему выбору относительно участия в демократическом движении и судебным разбирательствам с милицией?**

- К сожалению, они не поддерживают мои взгляды, особенно мама. У неё обычная равнодушная позиция. Но дело в том, что я с ними не живу. Я вместе с друзьями снимаю квартиру в Минске, поэтому я от родителей никак не завишу, и никто не определяет, где мне быть и что делать.

**- Спасибо за содержательную беседу.** Мы желаем тебе добиваться всегда того, чего хочешь, оставаться такой же целеустремлённой, красивой и боевой. Удачи!

*О том, чем всё-таки закончится Татьянина история по защите себя от типичного милицейского беспредела, мы будем информировать в последующих наших выпусках.*



**ТАТЬЯНА ТИШКЕВИЧ**

Родилась 14 сентября 1987 года в Минске, где и живёт постоянно. Окончила среднюю 193-ю городскую школу, затем 2 класса школы при Физической академии спортивного уклона. В настоящий момент является студенткой заочного отделения одного из ведущих вузов Беларуси. Ранее работала тренером верховой езды в посёлке Ратомка, что под Минском. Хобби: конный спорт, работа с животными. В будущим хотела бы открыть собственную конюшню. С 2007 года является активисткой гражданской кампании «Jeans - за Свободу!».

серыя "Забытая Беларусь":

# ІНФЛЯНЦКАЯ ВАЙНА

## гады 1558-1583

У 1558 годзе Маскоўская дзяржава напала на Інфлянты (Лівонія) – канфедэрацыю з пяці княстваў, заснаваных у Прыбалтыцы рыцарамі. Прычынай вайны стала жаданне Масквы атрымаць выйсце да Балтыйскага мора на Поўначы. Так, войскі цара Івана IV захапілі Нарву і Тарту. Лівонія звярнулася па дапамогу да Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), пры гэтым лівонскі магістр прызнаў сябе васалам нашай дзяржавы ВКЛ. Вялікі князь ВКЛ Жыгімонт II прапанаваў маскоўскаму цару адвесці войскі і вырашыць пытанне мірным шляхам, але станоўчага адказу не паступіла. Цяпер вайна разгарэлася і з нашай дзяржавай, беларускія землі сталі цэнтрам баявых дзеянняў. Нагадаем, што тагачасным маскоўскім царом быў Іван IV Жахлівы, які славіўся сваёй непахіснай жорсткасцю. Ён прызнаваў толькі праваслаўную канфесію, знішчэнне ўсіх астатніх вернікаў тапаром і мячом ён лічыў за шчасце і пэўную місію. Двух сваіх жонак цар патапіў у вадзе, яшчэ адну павесіў, наступныя яго выбранніцы затачыліся ад яго гневу пажыццёва ў манастыры.



У студзені 1563 года маскоўскае войска на чале з царом Іванам IV узялі ў аблогу Полацк. Гарнізон ваяводы Станіслава Давойны 16 дзён бараніў горад, не падпускаючы ворагаў. Але ў рэшце рэшт ён мусіў здацца, у выніку чаго горад быў захоплены. У выніку Іван IV абвясціў палоннымі не толькі жаўнераў войску Давойны, але і ўсіх жыхароў Полацку. Згодна з дадзенымі летапісаў і тагачаснай кнігі "Хроніка Еўрапейскай Сарматыі" , вядомы факт, што маскоўскі цар вывеў з гораду Полацка 50 тысяч нявольнікаў на свае тэрыторыі, многія тысячы чалавек пры гэтай пераправе загінулі ад марозу і голаду. Маскоўскія стральцы вынішчылі ў горадзе ўсіх католікаў. Габрэям – ад старых да немаўлятаў – выпала страшная доля загінуць пад ільдамі Дзвіны і Валовага возера. Так Іван IV адказаў ВКЛ на падтрымку Інфлянтаў.



У сталіцы ВКЛ горадзе Вільні страта Полацка была сустрэтая з бядой і трывогай. Былі арганізаваны перамовы з Масквой па яго вяртанню, але выніку гэта не дало. У студзені 1564 года маскоўскае войска нацэлілася на Менск і Навагрудак. Але гэты паход быў няўдалым. Каля вёскі Іванск харугвы гетмана Мікалая Радзівіла разбілі ўдвая большае войска маскоўскага ваяводы Шуйскага. Пасля гэтай бліскучай перамогі нашыя войскі пачалі атрымліваць перамогу ў разнастайных лакальных сутыкненнях, але гэтага не хапала для канчатковай перамогі над Масквой. ВКЛ было вымушана пайсці на вунію з Польшчай. Каранаваўшыся, новы вялікі князь і кароль Сцяпан Батура даў прысягу, што заўсёды будзе асабіста ўзначальваць войска і верне завяяваныя Масквой землі. Так, у 1579 годзе 40-тысячнае войска Батуры рушыла на Полацк. Пасля трох тыдняў аблогі гораду ён быў вызвалены. За час вайны Полацк і яго ваколіцы значна абязлюдзелі, на пабудову гарадскіх умацаванняў давялося браць сялян з-пад Магілёва. Батура рушыў далей браць землі, але быў спынены ў ва Пскове, не здолеўшы яго ўзяць. У 1582 годзе бакі падпісалі мір, паводле якога мяжа ВКЛ і Масковіі ўжо доўга не змянялася. Інфлянты ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага і былі ў яго складзе да 1629 году, пакуль Швецыя паводле Альтмарскай дамовы не вярнула землі да сябе.

Вайна прынесла нашай дзяржаве цяжкія страты, распачаўся яшчэ адзін этап вынішчэння беларускага этнасу, падрывалася эканамічная і палітычная стабільнасць ВКЛ; таксама гэта сталася прычынай вуніі з Польшчай, што несла небяспеку страты суверэнітэту і самастойнасці.

Паводле архіву гісторыка
**Уладзімера Арлова**

*Во все времена перед студентами стоят два самых важных вопроса «Как сдать сессию?» и «Где взять деньги?». Если с сессией можно справиться только одним чудо-средством – зубрежкой, то с деньгами дело обстоит значительно сложнее, тем более накануне отмены льгот.*

# Откуда деньги у бедного студента?

Студенческие годы – самые прекрасные в жизни каждого человека. Это время беззаботного отдыха в стиле нон-стоп, который чередуется с сессией, курсовыми проектами и контрольными. Но приходит такая минута, когда денег на походы в клубы или бары катастрофически не хватает. А тут еще государство лишает последней радости – отмены 50%-ной льготы на проезд. Сейчас проездной билет на один вид транспорта стоит около 12000. С 1 января эта сумма возрастет вдвое. А что делать тем, кто ездит на 2-х или 3-х видах транспорта каждый день? Стоимость проездного билета очень сильно бьет по кошельку. Вот тут каждый студент задумывается над тем, каким способом лучше достать средства существования: подработать, сэкономить со стипендии или попросить денег у родителей.

Чтобы узнать, откуда же берут деньги наши студенты, есть безотказный способ – выйти в свет, побродить по университетам города и пообщаться с молодежью.

Владимир Сахарено, студент 3-го курса БГУ, говорит: «Студентам всегда не хватает денег на развлечения. Чем больше денег, тем больше хочется. А в 20 лет как-то не прилично сидеть на шее у родителей и постоянно просить на свои нужды, поэтому приходится работать. Например, на выходных можно с друзьями разгружать фуру за 3 часа и получать 100$ на четверых». Конечно, разгрузка машин не самое легкое дело, но подработать можно. А что делать прекрасным девушкам, которые с трудом поднимают сумку со своими вещами, когда едут домой? На этот вопрос ответила студентка 4-го курса БГЭУ Ольга: «Если ты не можешь работать физически, то работай головой. Я пишу курсовые работы по экономике, статистике и бухучету. В зависимости от сложности темы можно получить от 20 до 45$, а еще можно решать контрольные работы для заочников, платят за них немного, но и времени затрачивается меньше». Нужно отметить, что при отмене льгот студентам придется работать больше, чтобы компенсировать затраты на проезд. Многие предприимчивые девушки находят себе лёгкое спонсорство своих протеже, демонстрируя возможности своей внешности. Можно часто замечать как, таких «блондинок» подвозят на учёбу дорогие машины. Студентов, относящих себя к неформальному движению, часто можно встретить в переходах с гитарой в руках, что позволяет им не только пополнять свои «счета», но и совершенствовать музыкальные навыки. Так, студент БГЭУ Дмитрий рассказывает о своём «подземном» хобби: «Если прикинуть кассы скрипачей, то за несколько часов они «поднимают» в пределах 80$, группа гитаристов около 50$, особенно прибыльны праздничные дни, тогда и милиция сильно не разгоняет».

Конечно, чтобы найти работу, нужно постоянно повышать уровень своей профессиональной подготовки, узнавать о вакансиях и не бояться стучать во все двери.

Студентам, которые получают образование на бюджетной основе, попроще. Если с сессией проблем нет, то в семестре можно получать стабильный ежемесячный доход – стипендию. Но тут встает другая проблема: как со 100 тыс. руб. купить проездной и сэкономить деньги на развлечения. В любом случае приходится ломать голову над «делением пирога». Деньги можно найти всегда, самое главное – желание работать и креативно мыслить.

**Nadzejka**

# АКУЛЫ СУСВЕТНАГА АЛІГАРХІЗМУ

Індыйскае інфармацыйнае агенства Press Trust of India у кастрычніку гэтага года назвала **Мукеша Амбані** багацейшым чалавекам на планеце. У выніку падвышэння коштаў акцый нафтахімічнага прадпрыемства Reliance Industries Ltd, яго уладальнік спадар Амбані дасягнуў свайго даходу памерам у $ 63.2 млрд.

Тым часам часопіс Forbes прыводзіць далейшы расклад найбагацейшых асобаў свету. Так, другое месца на планеце займае **Слілу Элу** – уладар лацінаамэрыканскай тэлекамунікацыйнай крыніцы. Яго асабісты бюджэт дасягае $ 62.2993 млрд.

**Біл Гейтц** займае пачэснае трэцяе месца з $ 62.29 млрд, застаючыся пры гэтым самым багатым амерыканцам. Праз дзесятак месцаў у агульным рэйтынгу знаходзяцца расійскія бізнэсоўцы. Такія дадзеныя пацвярждае і маскоўкае прадстаўніцтва ўплывовага выдання The Wahington Post. Бясспрэчным лідэрам застаецца паранейшаму губернатар Чукоткі, уладальнік англійскага футбольнага клубу Чэлсі – **Раман Абрамовіч**. Яго бюджэт раўны $19'2 млрд. Рамана даганяюць алюміневы магнат **Алег Дэрыспаска** і кіраўнік Наваліпцкага металургічнага камбінату **Уладзімір Лісін** (каля $15 млрд, трэцяе і чацьвёртыя месцы па рэйтынгу РФ).Наступны радок (другое афіцыйнае месца) адводзіцца нашаму беларусу **Анатолію Чубайсу** – кіраўніку праўлення расійскай энергетычнай кампаніі РАО ЕЭС РФ. Яго даход дасягае $18 млрд.

Далей сярод найбагацейшых расіянаў у спісе знаходзяцца кіраўнік Інтэраса - **У. Патанін**, кіраўнік Альфа-групы – **М. Фрыдман**, прэзідэнт Лукойла - **В. Алякпераў**, дэпутат Дзяржаўнай Думы РФ, кіраўнік Нафта-Масква – спадар **Керымаў**.

Бюджэт спадара **Хадаркоўскага**, які раней налічваў каля $18 млрд, зараз прадстаўляе сабой лічаныя мільёны. Нагадаем, што Хадаркоўскі некалькі год таму быў асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі за ўхіленне і нявыплату падаткаў, шматлікія эканамічныя парушэнні заканадаўства Расійскай Федэрацыі.



Вядомы скандальны фінансіст **Барыс Беразоўскі** налічвае ў сваіх даходах на сённяшні дзень усяго $ 972 млн. Гэта яму не перашкаджае, знаходзячыся ў Вялікабрытаніі, укладаць грошы ў шматлікія інвестыцыі (развіццё і падтрымка асобных медыяхолдынгаў, гатэльнага і рэстараннага бізнэсу, палітычных структур), пры гэтым заставацца не дасягальным для расійскай улады, якая ўжо некалькі гадоў спрабуе дамагчыся яго арышту.

У нашай суседцы Украіне, паводле розных экспертных ацэнак і дадзеных часопіса *Кореспондент*, адным з самых найбагацейшых лічыцца **Рынат Ахметаў** ($18.800 млн), вядомы сваёй палітызаванасцю і падтрымкаю блакітнага прарасійскага блоку спа-дара Януковіча.

Як бачна з аналітычных ацэнак, паспяховасць сёння маюць прадпрыемствы, звязаныя ў першую чаргу на перапрацоўцы і рэалізацыі нафты, газу, металургіі. Але большасць заходніх экспертаў лічаць, што ў бліжэйшай будучыні паспяховасць бізнесу будзе палягаць не на прыродных рэсурсах, а на нерухомасці.

**А.П.**

# «РЫЦАРСКИЕ ЗАМЕТКИ»

## рубрику дневника ведёт спецкор газеты Понтий Хаттаб



**В нашем обществе часто складывается впечатление, что те люди, которые занимаются военно-исторической реконструкцией, являются бандой мрачных алкоголиков, только и умеющих, как наряжаться в доспехи, напиваться и крушить друг другу черепа мечами и топорами. Но это далеко не так.**

Да, конечно, попадаются некоторые личности (имён называть не буду, дабы не обидеть), которые на все сто процентов подходят под это описание, но при этом многие, даже большинство, отнюдь не такие. Часто в наши так называемые рыцарские клубы идут молодые люди лет 16-18, которые увлекаются историей, занимаются спортом (или хотя бы просто физической подготовкой), изучают ремёсла кузнечное, портняжное, плотницкое, частично инженерное (осадные машины). Молодёжь постоянно находиться в коллективном обществе, с кем-то дружит, с кем-то ссорится, как и в любом нормальном коллективе. Но это не главное, главное же здесь то, что я хочу развеять ореол "мрачных алкоголиков" нависший над нашими ребятами, и рассказать об некоторых забавных историях произошедших во время фестивалей (далее фэстов).

Немного «паскудноватая» погодка на одном фэсте очень угнетающе действовала на обе команды, уже готовые к бугурту (бой стенка на стенку, в доспехах и с оружием). И вот маршал (командир) одной из команд решает поднять боевой дух своих бойцов. Выходит он, становится перед строем, и во всю силу своей луженой глотки выдаёт такой перл: "Да здравствует Наука! Да здравствует Прогресс!!! Слава нашей Партии - ЦК КПСС!!!" Немая пауза. Враги истерично хихикают, а боевой дух союзников заметно поднялся, да так, что все в один голос, по команде выдают: "Ликует весь народ!!! Ликует пионерия!!! Сегодня в гости к нам пришёл – Лаврентий Палыч Берия!!!" Результат: враг в ступоре, ржёт не может, зрители, которые уже было собирались разойтись, с интересом собираются вокруг ристалища (место проведения бугурта), а союзники в хорошем настроении и готовы к бою...

Один товарищ, довольно давно владеющий собственной лошадью, изобрёл совершенно уникальный способ создавать оригинальные скульптуры. Дело было так: утром прошел дождь, не очень сильный, но всё же грязи подпустил изрядно. По этой причине решено было перенести всё на вторую половину дня. И вот сей товарищ показывал своё мастерство наездника перед зрителями. И вот, проезжая над одной из грязевых луж, не удержался в седле и, к радости зрителей, полетел в эту самую лужу. Конечно, ему помогли выбраться, очиститься, привести себя и коня в порядок. Он, естественно, от этого места удалился, дабы забыть этот инцидент. А ближе к вечеру опять вспомнили. В месте падения, высушенный солнцем, выделялся отчётливый силуэт рыцаря в доспехах и шлеме, некоторые даже уверяли, что какое-то время можно было рассмотреть черты и выражение лица. На том фэсте это стало главной достопримечательностью для туристов.

Такие приколы часто творятся на всевозможных фестивалях, что просто не уследить за всем. Рыцари – народ боевой и с характером. Наверное, только они теперь уступают места в транспорте бабушкам и дедушкам, дарят женщинам цветы в знак готовности совершить для них героический подвиг. И не думайте, если вдруг встретите на улице коня с хозяином в доспехах, что этот объект пьяный – быть может, он просто потерялся или прогуливается на скаку. Даже если он будет с топором в руках, не пугайтесь, – это съёмка скрытой видеокамеры,а может, и ваша судьба...

### ▶ ТОП - АНЕКДОТЫ

● В час пик в автобусе маршрута №100 раздаётся голос: «Осторожно, товарищи, - ухо, ухо, у-х-о...»
Тут же следует голос соседа-пассажира: «Успокойтесь, уже прокомпостировали!»

● - Дорогая, у нас сегодня вечером будут гости, приготовь что-нибудь на ужин.
- Хорошо, приготовлю. Только как готовить, - так чтобы им понравилось, или чтобы больше они не приходили?




● На приёме у врача:
- Доктор, помогите, всё болит: почки, печень, горло, живот... Всё болит.
- Одеколон пили?
- Да пил, не помагает...

№4 (18) лістапад' 2007
Выдаецца са снежня 2000г.
Афіцыйнае выданне Беларускага Кангрэса Дэмакратычных Прафсаюзаў (АС "БКДП"). www.bkdp.org
Адрас: Мінск, вул. Якубава, 80-80, офіс 2.
Аўтарскія правы абаронены.
Тыраж 299 экзэмпляраў
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутраннай дакументацыі.

© "ПАРТЫЗАНСКАЯ"
беларускае незалежае выданне
Галоўны рэдактар: Алег Люты
Шэф-рэдактар: Савін Павал
Дызайн, макет, стылістыка: Dj Black
Карэкцыя: Наста Альшанская
Адказны за распаўсюд: Мікалай С.
Каардынаты : pbelarus@yandex.ru




Рэспубліка Беларусь, г. Мінск.

Выдаецца на дзяржаўных мовах: беларускай і рускай.
Падпісана ў друк: 26.11.2006
Сетка распаўсюджвання: Мінск (навучальныя установы, метро, офісы партый і арганізацый), Віцебск, Наваполацк, Смаргонь, Стаўбцы, Маладэчна, Магілёў, Брэст, Калінкавічы, Бабруйск, Гомель, Мазыр.